# Еўропа для беларускіх выкладчыкаў

1 Выкладанне ўласных курсаў

2 Рэалізацыя даследчых праектаў

3 Фінансавая і тэхнічная дапамога



Беларускі Еўрапейскі Форум

# ЦІ ВЕДАЕЦЕ ВЫ, ШТО...

Еўрапейскі саюз мае спецыяльную праграму для супрацы з суседзямі на ўсходзе, у тым ліку і з Беларуссю. Гэта праграма Еўрапейскай палітыкі добрасуседства і Усходняга партнёрства.

Паміж 1991 і 2006 гг. Еўрасаюз выдаткаваў Беларусі на развіццё краіны 229 млн. еўра, ці 23,6 еўра на аднаго жыхара. Гэта значна менш, чым мелі іншыя краіны-суседзі Еўрасаюзу. Грузія атрымала прыкладна 110 еўра на чалавека, Малдова — 73, Украіна — 52.

Каб напоўніцу карыстацца з дапамогі Еўрасаюзу, Беларусь павінна падпісаць з ім Пагадненне аб партнёрстве і супрацоўніцтве, рэалізацыя якога была перапыненая ў 1996 г. праз парушэнні ў нашай краіне правоў чалавека і прынцыпаў дэмакратыі. Пасля таго як Беларусь далучыцца да гэтай праграмы, будзе распрацаваны План дзеянняў, індывідуальны для кожнай





краіны. На сённяшні дзень толькі 3 з 16-ці краінаў-удзельніц праграмы «Палітыка добрасуседства» не падпісалі аніводнага з трох асноўных дакументаў праграмы — гэта Беларусь, Лівія і Сірыя.

А між тым падтрымка Еўрасаюзам палітычных, эканамічных ды сацыяльных пераўтварэнняў у Беларусі можа значна палепшыць жыццё нашых грамадзянаў.



**Па-першае**, беларусы атрымаюць права наведваць краіны Еўрасаюзу без візаў, а таксама вучыцца там і працаваць.



**Па-другое**, падвысіцца эфектыўнасць працы дзяр-жаўнай і мясцовай адміністрацыяў, судовай сістэмы, мадэрнізуецца адукацыя, палепшыцца якасць медыцынскіх і камунальных паслугаў, дадатковую падтрымку атрымаюць рэгіёны і сем'і, пацярпелыя ад Чарнобыльскай аварыі.



**Па-трэцяе**, беларусам будзе гарантаваная абарона іх правоў і свабодаў. Рашэнні беларускіх судоў можна будзе аспрэчваць у найвышэйшых еўрапейскіх інстанцыях, а беларускае права і практыка праваprымянення нармалізуецца згодна з еўрапейскім заканадаўствам.

# ШТО АТРЫМАЮЦЬ АД ЕЎРАІНТЭГРАЦЫІ ВЫКЛАДЧЫКІ?

## 1 Еўрапейская палітыка добрасуседства і Усходняе партнёрства

Для больш разгорнутага супрацоўніцтва з суседнімі краінамі Еўрапейскі саюз у 2004 г. абвесціў Еўрапейскую палітыку добрасуседства. Акрамя фінансавай дапамогі краінам-суседзям яна прадугледжвае цэлы шэраг пераваг беспасярэдне для выкладчыкаў і навукоўцаў для рэалізацыі супольных з еўрапейскімі універсітэтамі адукацыйных ды навуковых праектаў.

Усходняе партнёрства — гэта яшчэ адна праграма, якую Еўрапейскі саюз распачаў у траўні 2009 г. Яна прызначаная для шасці ўсходнееўрапейскіх краінаў-суседзяў, у тым ліку і для Беларусі.

Далучэнне Беларусі да Палітыкі добрасуседства і Усходняга партнёрства для выкладчыкаў і навукоўцаў азначае:

**а** **Бясплатныя візы**

Шэнгенскія візы для ўсіх грамадзянаў Беларусі будуць каштаваць 35 еўра, а выкладчыкі і навукоўцы, якія ўдзельнічаюць у навуковых і адукацыйных праектах з еўрапейскімі калегамі, змогуць атрымліваць візы бясплатна.

**б** **Стажыроўкі**

Беларускія выкладчыкі і навукоўцы атрымаюць шырокія магчымасці для навуковых і адукацыйных стажыровак у еўрапейскіх універсітэтах і даследчых цэнтрах.

**в** **Выкладанне ўласных курсаў**

Уніфікацыя адукацыйных стандартаў з краінамі Еўрапейскага саюзу зробіць значна больш даступнай практыку выкладання замежных прафесараў у беларускіх ВНУ, а беларускіх — ва універсітэтах Еўропы.

**г** **Рэалізацыя даследчых ды іншых праектаў**

Станецца больш даступнай рэалізацыя сумесных даследчых праектаў беларускіх і еўрапейскіх навукоўцаў, якія фінансуюцца праз розныя праграмы Еўрапейскага саюзу, як, прыкладам, «Сёмая рамачная праграма» (FP7).

**д** **Атрыманне грантаў**

Палітыка добрасуседства прапануе цэлы шэраг магчымасцяў атрымання грантаў для распрацоўкі новых курсаў і навуковых праектаў для навучальных установаў, кафедраў і выкладчыкаў Беларусі.

**е** **Фінансавая і тэхнічная дапамога**

Еўрапейскі саюз прапануе таксама наўпроставую фінансавую і тэхнічную дапамогу навучальным установам, дэпартаментам і кафедрам у краінах, якія прытрымліваюцца Палітыкі добрасуседства.





## 2 Балонскі працэс

У 1999 г. у Еўропе была сфармаваная агульная сістэма вышэйшай адукацыі, якая атрымала назву Балонская. У яе станаўленні ўдзельнічаюць міністры адукацыі ўсіх еўрапейскіх дзяржаваў, універсітэты, студэнты і выкладчыкі з 46 краінаў, а таксама розныя міжнародныя арганізацыі. Апрача ўдасканалення адукацыйнага працэсу Балонская сістэма вызначае і стандарт якасці вышэйшай адукацыі ў Еўропе. Далучэнне універсітэтаў Беларусі да Балонскага працэсу для выкладчыкаў гэта:

а **Трансфармацыя сістэмы адукацыі**

Яна будзе грунтавацца на двух цыклах — бакалаўрыяце, які дае базавую вышэйшую адукацыю, і магістратуры, па сканчэнні якой прысвойваецца навуковая ступень магістра. Гэта дазволіць істотна падвысіць якасць адукацыі ў нашай краіне і рыхтаваць спецыялістаў еўрапейскага ўзроўню з добрым веданнем замежных моваў.

б **Самакіраванне і акадэмічныя свабоды**

Балонская сістэма прадугледжвае большую незалежнасць універсітэтаў у правядзенні адукацый-

най і навуковай дзейнасці. Выкладчыкі і навуковыя супрацоўнікі атрымаюць права абіраць дэканаў ды рэктараў і ўвогуле рэальна ўплываць на адукацыйную палітыку сваіх універсітэтаў.

**В** **Камунікацыя**

Беларускія выкладчыкі, як і іх еўрапейскія калегі, будуць мець шырокія магчымасці выкладаць у розных еўрапейскіх універсітэтах, найперш у межах абменных праграм. А таксама удзельнічаць у даследчых праектах разам са сваімі еўрапейскімі калегамі.

**Г** **Зменшэнне акадэмічнай нагрузкі**

Еўрапейская сістэма адукацыі ў параўнанні з сённяшняй беларускай прадугледжвае значна меншую акадэмічную нагрузку як на студэнта, так і на выкладчыка. Аўдыторная нагрузка пры трансфармацыі сістэмы адукацыі можа зменшыцца ў 2—3 разы. Пры гэтым значна падвышаецца ўзровень аплаты працы выкладчыка як за кошт росту ставак пагадзіннай аплаты, так і за кошт удзелу ў даследчых навуковых і камерцыйных праектах.



« Цывілізацыйна, гістарычна і культурна Беларусь — неад'емная частка Еўропы.

Незалежнасць, дэмакратыя, росквіт і далейшае развіццё нашай Бацькаўшчыны наўпрост залежаць ад паспяховасці нашых намаганняў па інтэграцыі ў еўрапейскую эканамічную і палітычную прастору. Гэта гістарычны выклік для нашай краіны, уладаў і грамадзянскай супольнасці.

Я веру ў еўрапейскі шлях і будучыню Беларусі. »

Аляксандр Мілінкевіч
*старшыня Руху «За Свабоду»*

**Рух «За Свабоду»**
**www.milinkevich.org**
**п/с 148, Мінск, 220005**

**Аргкамітэт Беларускага Еўрапейскага Форуму**
**www.euraforum.info**

**Прадстаўніцтва Еўрапейскай Камісіі ў Беларусі**
**www.delblr.ec.europa.eu**



Беларускі Еўрапейскі Форум

Наклад 2000 ас. Замова №215.
Надрукавана на абсталяванні выдавецтва «Лорэнс-прэс», г. Смаленск